Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок петыту ў 1 шп

№ 9 (22). Вільня, Серада, 3-га лютага 1926 г. Год II.



## Вялікая пара!

Здаецца, даўно ўжо стаўся бясспрэчным факт, што ў працэсе крысталізацыі беларускае нацыі галоўным крысталізацыйным цэнтрам зьяўляецца Радавая Беларусь.

Запраўды-ж: з усіх тых часьцін, на якія парэзана Беларуская зямля, у найлепшых дзеля разьвіцьця беларускае нацыянальнае культуры варунках апынулася тая частка Усходняе Беларусі, у якой стварылася свая самастойная дзяржаўная арганізацыя, у якой жыцьцё будуецца рукамі беларускіх сялян і работнікаў. Ні ў Заходняй Беларусі, што пад Польшчай, ні на паўночнай акраіне яе, якая папала пад уладу Латвіі, ні, урэшце, на тым абшары Усходняе Беларусі, якая не ўвайшла ў склад Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі, — нідзе такіх шчасьлівых варункаў няма.

Ані Заходняя Беларусь, дзе самаўладна гаспадарыце польская буржуазія, ані латвійская частка нашае Бацькаўшчыны, у якой латвійскія кулацка-нацыяналістычныя ўрады ганебна прадаюць стотысячную беларускую масу маскоўскаму і польскаму чорнасоценству, — ня могуць забясьпечыць беларускаму працоўнаму народу неабходных варункаў дзеля выяўленьня як сацыяльнае і палітычнае, так і культурна-нацыянальнае самадзейнасьці. І гэта зусім зразумелае зьявішча.... Менш зразумелым зьяўляецца тое, што падмаскоўская Беларусь усё яшчэ жыве як-быццам „без галавы“, пазбаўленая свайго натуральнага цэнтру—Менску, ад якога штучна аддзелена і неяк дзіўна прычэплена да Масквы....

Як ведама, два гады назад, калі адбывалася частковае пашырэньне межаў Радавае Беларусі, пры маскоўскім цэнтры былі пакінены гэткія этнаграфічна-беларускія паветы: Вяліжскі, Нэвэльскі і Себежскі — з складу былое Вітэбскае губэрні, Гомельскі і Гарадоцкі—з Магілёўскае губ., пяць беларускіх паветаў Чарнігаўшчыны, ды сем — Смаленшчыны (Смаленскі, Бельскі, Дарагабужскі, Ельненскі, Красьненскі, Парэчаўскі і Рослаўскі), ня кажучы ўжо аб часьці Рэчыцкага (Меншчына) і Бранскім павеце (Тверская губ.). Абшар гэта—не малы: нешта каля 90.000 кв. вёрст з больш як трохмілёнными насяленьнем! Восьжа, калі праводзіўся гэты падзел адзінага з нацыянальнага і гаспадарчага пагляду беларускага арганізму, дык уступчывасьць Менску тлумачылася, як нас інфармуюць, тым, што тамтэйшыя беларускія дзеячы *ня былі ўпэўнымі ані ўласных сіл* (баючыся, што моʻня здолеюць агарнуць адразу такі вялікі абшар!), *ані волі насяленьня*, астаўшагася пад маскоўскім цэнтрам.

Цяпер, здаецца, дзеля гэткіх сумляваньняў не павінна больш быць мейсца. Два гады працы менскага цэнтру на новадалучанай беларускай тэрыторыі ў дастатачнай меры выявілі дзяржаўна-творчыя і адміністрацыйныя здольнасьці менскага ўраду, а разам з тым выявілі і *магутны рост нацыянальнага ўсьведамленьня сярод працоўных масаў вёскі і места на астаўшыхся паза межамі Радавае Беларусі абшарах.*

Мы пільна—ў меру магчымасьці—сачылі па даходзіўшых да нас газэтных вестках за працэсам нацыянальнага прабуджэньня нашае Гомельшчыны ды Смаленшчыны. Мы адзначалі ў нашай часопісі і такі нязвычайнае вагі факт, як пачатак беларускае працы *сярод работнікаў* найвялікшага на Усходзе Беларусі прамысловага цэнтру—*Бранску.* Мы бачылі, як за апошні час лічба беларускіх пачатковых школ у Гомельшчыне з 32 саматужна ўзрасла да 110. І ўсё гэта—паміма галоўнага вогнішча беларускае культурнае творчае працы—Менску, ад якога гэтыя землі адміністрацыйна аддзелены; усё гэта — ня гледзячы на тое, што кіраўнічую ролю іграюць тамака элемэнты *небеларускія*, часта пранікнутыя тым „істінно-русскім“ духам, які дагэтуль ня вывятрыўся да канца ад часоў царскага панаваньня і палітыкі прымусовага абмаскоўліваньня беларусаў....

Цяпер ад нашых паслоў, толькі-што вярнуўшыхся з падарожжа ў БСРР, мы маем пацьверджаньне таго, што ўсе гэныя беларускія абшары, недалучаныя ў свой час да свайго нацыянальнага і гаспадарчага цэнтру, запраўды *саматужна імкнуцца да Менску*, ад якога толькі і могуць спадзявацца помачы ў здаваленьні сваіх *культурна-нацыянальных патрэб.* А да гэтага далучаецца і адзін дужа важны мамэнт, чыста *гаспадарчага* характару, які таксама красамоўна прамаўляе на карысьць злучэньня каля менскага цэнтру ўсіх зямель Усходняе Беларусі.

Справа ў тым, што, як падаюць газэты, ужо з гэтае вясны маюць быць распачаты работы дзеля правядзеньня каналу, які будзе злучаць Дзьвіну з Дняпром, а праз іх—Балтыцкае мора з Чорным. Аб вялізарным значэньні гэтага каналу наагул мы ніжэй зьмяшчаем спэцыяльную стацьцю. Тут-жа адзначым, што канал гэты яшчэ мацней зьвяжа эканамічна Беларусь смаленскую з тымі беларускімі землямі на паўдзён, якія займаюць даліну Дняпра, а таксама і з наддзьвінскімі землямі на паўночным захадзе. Гэты нязвычайнае вагі вадзяны шлях мусіць абслугоўваць *усю Усходнюю Беларусь*, і ўжо хаця-бы дзеля гэтага асабліва важна, каб усе беларускія землі, заінтэрэсаваныя ў канале, прадстаўлялі *адзіную гаспадарча-дзяржаўную арганізацыю.*

Усё гэтае разам узятае ясна нам кажа, што пара ўжо—і то вялікая пара!—падумаць *аб абʻяднаньні каля менскага цэнтру*, у межах Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі, *усіх беларускіх тэрыторыяў на Усходзе.* Воля працоўных гэтых тэрыторыяў мусіць быць найвышэйшым тут законам, а яны якраз і паказалі—не на славах, а на дзеле, што імкнуцца да абʻяднаньня усяе Беларусі. І ўсякі апор з боку „істінно-русскіх“ недабіткаў царызму, якія, як нас інфармуюць, усемі спосабамі стараюцца перашкодзіць такому абʻяднаньню, мусіць уступіць трэбаваньню беларускіх сялян і работнікаў.

## Вялікі вадзяны шлях.

(*Злучэньне каналам Дзьвіны з Дняпром*).

Ужо тысяча гадоў назад паміж Балтыцкім і Чорным морам быў установлены вадзяны шлях. Купцы, заваявальнікі, ці проста падарожныя, якім трэба было з надбалтыцкіх краін папасьці ў Усходнюю ці Усходня-Паўдзённую Эўропу, прабіраліся туды найбольш даступным тады і лёгкім спосабам —па вадзе, але не акольнай марской дарогай навакол усяе Заходняе Эўропы, страшэнна даўгой і нявыгоднай, а найкарацейшым шляхам — па рэках, плывучы ўверх цячэньня рэк Балтыцкага басэйну, пасьля перацягіваючы чаўны сухапуцьцем праз так-званы Карпата Валдайскі вададзел і пападаючы ў вялізарную раку Днепр, па якой спускаліся на палудзень ажно да Чорнага мора. Шлях гэты праразаў з поўначы на палудзень усю цяперашнюю Беларусь.

З ходам часу, калі на вялізарных прасторах Усходняе Эўропы патварыліся зʻарганізаваныя гаспадарствы, калі папракладалі праз пушчы і балоты выгодныя калёсныя дарогі, пабудавалі масты на непераходных раней рэках, — гэны вадзяны шлях, вядомы ў гісторыі пад назовам „Вялікае вадзянное дарогі з Варагаў у Грэкі“, утраціў сваё колішняе значэньне. Але ў мінулым сталецьці, калі пачало выяўляцца значнае разьвіцьцё таргоўлі таварамі, якія займаюць шмат мейсца, прадстаўляюць вялікі цяжар, ды невялікую маюць цану, справа выкарыстаньня дзеля іх правозу танных вадзяных шляхоў ізноў станула на парадку дня. Да такіх цяжкіх на вагу ды недарагіх па цане тавараў належыць перад усім лес, якога ў нас на Беларусі заўсёды было многа, ды які йшоў, з аднаго боку, у бедную лесам Украіну, з другога—у Заходнюю Эўропу. Вось-жа ў мінулым сталецьці дзеля ўтварэньня магчымасьці сплаву нашага дрэва як на палудзень, так і на паўночны захад—да Балтыцкага мора, прыток Дзьвіны Улла быў злучаны каналам з прытокам Дняпра—Бярэзінай, і гэтак вадзяным шляхам мог адбывацца рух тавараў паміж Балтыцкім і Чорным морам.

Аднак, канал гэны быў пабудаваны дужа прымітыўна і мог служыць бадай выключна дзеля сплаву лесу. А тым часам эканамічнае жыцьцё ўсьцяж разьвівалася і вымагала ўзмацаваньня тарговых зносінаў у краю, а таксама зносінаў паміж узьбярэжнымі надморскімі краінамі з іх портамі на Балтыцкім і Чорным моры з—аднаго боку, ды вялізарнымі абшарамі Беларусі і Украіны — з другога.

Яшчэ да сусьветнае вайны ў Пецярбурзе пры міністэрстве шляхоў была створана адумысная камісія дзеля распрацаваньня праекту пабудовы вялікага каналу між Дзьвіной і Дняпром беспасрэдна, — каналу, па якім свабодна мог-бы адбывацца рух параходаў. Але з прычыны таго, што гэта вымагала значных затрат, а карыстацца новым вадзяным шляхам меліся перад усім „акраіны“, царскі ўрад не сьпяшаўся зьдзейсьніць гэты праект. А тут наляцела сусьветная вайна, і справа каналу была аканчальна пахавана.

У часе нямецкае акупацыі ідэяй злучэньня Балтыцкага мора з Чорным заняліся практычныя немцы. Яны, ведама, мелі на ўвеце сваю ўласную карысьць і распрацавалі новы плян правядзеньня вадзянога шляху, які перад усім праходзіў-бы праз нямецкую тэрыторыю, ідучы ад Кевігсбэрга (Каралеўца) ў Усходніх Прусах па нямецкай рацэ Прэгелю, праз Мазурскія вазёры (на якіх была разгромлена расейская армія), па Нёмне, праз Шчару, Агінскі канал (старасьвецкі і здатны цяпер толькі дзеля сплаву лесу) — у Прыпяць і Днепр. Ведама, гэты плян мог-бы быць зьдзейсьнены толькі ў выпадку перамогі Нямеччыны ў сусьветнай вайне; калі-ж немцы праігралі, гэты плян утраціў усялякае значэньне.

Выкарыстаць ідэю вадзяное дарогі між Балтыцкім і Чорным морам прабавалі ў апошнія часы Румынія і Польшча. Яны, ведама, мелі на мэце таксама сваю ўласную карысьць і праектавалі злучыць Віслу каналам з Днястром, пераносячы гэтак балтыцка-чорнаморскі шлях значна на захад і абмінаючы зусім Усходнюю Эўропу, значыць і Беларусь і Украіну. Але ўвесь гэты румынскі праект, які мог-бы значна аслабіць вагу дарогі па Дзьвіне і Дняпры, ня мае ніякае падставы дзеля свайго зьдзейсьненьня: абедзьве зацікаўленыя дзяржавы сваіх грошы на гэта ня маюць, а заграцічнага крэдыту ніяк здабыць ня могуць: пытаньне аб звароце Нямеччыне карыта Віслы ў межах так-званага Гданскага калідору праўдападобна будзе вырашана не на карысьць Польшчы, дык і ніхто на няпэўнае прадпрыемства грошы ня дасьць!

Ужо ў часе міравое канфэрэнцыі ў Парыжу ў 1919 годзе справу каналу між Дзьвіной і Дняпром падняла беларуская дэлегацыя, якая запрасіла на нараду прадстаўнікоў беспасрэдна зацікаўленых у Балтыцка-Чорнаморскім шляху дэлегацыяў: украінскае і латышскае. Украінскія прадстаўнікі неяк мала зацікавіліся гэтай справай, але затое зусім зразумелі значэньне гэтага праекту латышы, якія маюць у сваіх руках выхад з Дзьвіны ў мора. Адбываліся пасьля нарады і з прадстаўнікамі амэрыканскага капіталу (Моргана), якія заявілі, што ў Амэрыцы на такую паважную справу заўсёды можна спадзявацца дастаць крэдыты. Аднак, усё тады скончылася толькі на гутарках. І Беларусь і Украіна апынуліся ў складзе Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, — і зьдзейсьненьне нязвычайна важнага для нашае Бацькаўшчыны праекту перайшло ў рукі Радавае ўлады.

Як наказуюць газэты, радавы ўрад пастанавіў **ужо ў гэту вясну распачаць працу над правядзеньнем каналу, які будзе злучаць Дзьвіну з Дняпром.** Гэта выклікала вялікую радасьць ня толькі сярод беларусаў і ўкраіцаў, але, як наказуюць з Рыгі, такжа і ў латышоў. І радасьць гэтая—зусім слушная: давол сабе прадстав'іць, што цэлы рад беларускіх мест і мястэчак у глыбіні краю, як Полацак, Віцебск, Смаленск, Магілёў, Быхаў, Рэчыца ды шмат іншых, **адкрыюць у сябе порты**, у якія простай дарогай будуць прыяжджаць параходы з Рыгі ці з чорнаморскіх портаў,—каб уцяміць значэньне каналу для Беларусі!

Праўда, судзячы паводле польскіх газэт, з якіх мы пачарпнулі весткі аб канале, радавы праект прадбачыць рух па ім толькі параходаў меншае велічыні, значыць, канал мае быць не настолькі глыбокі, каб па ім маглі хадзіць марскія параходы. Але і тое, што праектуецца, суліць Усходняй Беларусі магутны рост у яе эканамічнагаспадарчым разьвіцьці, а разам з тым і ў усіх галінах грамадзкага і нацыянальнага жыцьця. І мы з шчырай радасьцяй вітаем зьдзейсьненьне праекту, які можа адкрыць зусім новую эру ў адраджэньні Беларусі.

**А. Н.**

## Фашысты аб Польшчы.

Як ведама, дагэтуль сучасная панская Польшча лічыла сваім першым пасьля Францыі прыяцелем і дабрадзеем—фашыстаўскую Італію. Але неяк ня вельмі шанцуе Польшчы на ўзаемнасьць з боку яе прыяцеляў..- Бо — толькі-што ў афіцыяльным органе самага Мусоліні—„Popolo di Roma" („Рымскі Народ") зьмешчана вельмі характэрная стацьця, у якой „здаровая" фашыстаўская Італія выражае сваю... пагарду да хворай і няздарнай Польшчы...

Урадавая італьянская газэта піша аб „гісторыі агульнага зладзейства і нячуванай падкупнасьці", якую раскрыла перад усім сьветам „адраджоная Польшча", а перад усім яе вайсковая гаспадарка... Пасьля цэлага раду гэткіх сумных абразоў новастворанай дзяржавы, орган Мусоліні робіць з усяго агульны вывад, які зьяўляецца запраўдным прысудам сьмерці сучаснай самастойнай і незалежнай Польшчы.- Кажучы аб Данцыгу (Гданску), які, маючы сваю здаровую валюту, проці сваей волі зьвязаны мытным абручом з хворавалютнай Польшчай, Мусоліні спачувае „здароваму і сільнаму арганізму (Данцыга), які прывязаны гвалтам **да—канаючага арганізму (Польшчы)"**. Італьянскі фашызм абураецца на тое, што „пастанова нейкіх трэціх асобаў (вэрсальскіх пераможцаў) дазваляе гэтаму хвораму арганізму (Польшчы) праглынуць здаровы арганізм Вольнага Места Данцыга". Але газэта верыць, што з гэтага „прыемнага палажэньня" Данцыг патрапіць выйсьці...

Але найцікаўнейшы канец артыкулу п. Мусоліні.—Кажучы аб мытных перагаворах Польшчы з Чэха-Славакіяй, газэта Мусоліні радзіць Польшчы—**аб'яднацца з Чэха-Славакіяй** ня толькі мытнай уніяй, але і **палітычнай**... — „Палітычнае аб'яднаньне Польшчы з Чэха-Славакіяй ня толькі неабходнасьць, але і—адзіны ратунак для Польшчы, якая можа ўратавацца толькі **пад кіраўніцтвам Масарыка**"...

Вось дык удружыў Мусоліні сваім варшаўскім прыяцелям і паклоньнікам... Можна толькі запытацца пана Мусоліні, чаму гэта ён, спачуваючы здароваму Данцыгу, зьвязанаму з хворым арганізмам Польшчы, хоча такога-ж хворага калегу навязаць Чэха-Славакіі?!

Гэты артыкул, паданы „Кур. Паранным", зрабіў у польскай прэсе вялікае ўзварушэньне. І вось —польскім звычаем—гэтая польская прэса востра нападае на... польскае пасольства ў Рыме, якое ня здолела перашкодзіць такому страшэннаму скандалу „шкаляваньню Польшчы" ў урадавым органе „прыязнай" фашыстаўскай Італіі.

Як бачым, „антыпольскі блёк" павялічыўся новымі „антыпаньствовымі" элемэнтамі: да камуністаў, жыда-масонаў, беларусаў, украінцаў, літвіноў, немцаў, Ллойд-Джорджаў і інш.—далучыліся і фашысты на чале з самым панам Мусоліні, якога яшчэ так нядаўна навет сам Тугут лічыў наймацнейшым „слупам польскай дзяржаўнасьці"...

## „Аляксюкоўшчына" аджывае.

Самы агідны від палітычнае ўгоды (згодніцтва)—гэта ўгода паміж прадстаўнікамі паняволенага, бяспраўнага народу з тымі, хто яго паняволіў і дзержыць у паняверцы і зьдзеку.

Вось, чаму ўсе беларускае грамадзянства ў свой час з агідай адвярнулася ад „вядомага" Аляксюка і ягоных кумпанаў, калі тыя спрабавалі (праўда, вельмі няўдачна!) зламаць байкот беларусамі выбараў у так-званы „Віленскі Сойм", які павінен быў—пад штыхамі войск ген. Жэліговскага—„свабодна" выявіць „усенароднае імкненьне" да злучэньня Віленшчыны з Польшай...

Няўдача Аляксюка і аляксюкоўшчыны была тады поўная: ніхто з гэнае кумпаніі, „працаваўшае" за польскія грошы, ня здолеў сабраць гэтулькі галасоў, каб папасьці ў гэны „Сойм". І Аляксюк на нейкі час як-быццам прыціх, выпускаючы толькі ад часу да часу на палітычную арэну такіх „дзеячоў", як ягоны родны па духу брат „доктар" Павлюкевіч...

Але вось, дзякуючы таму, што беларускае грамадзянства як-быццам пачало забывацца аб усіх „слаўных" дзеяньнях Аляксюка, гэны „франт" ізноў пачаў паказваць сваі рогі, ці мо' лепш — капыты. Убіўшыся ў Т-ва Беларускае Школы ў Наваграду, ён з пункту—як кажуць палякі— „утрупіў" яго, ці абярнуў яго ў запраўднага трупа, бяздзеяльнага, ня здолеўшага нават памагчы сялянству ў часе падаваньня дэкляраціяў на беларускія школы. І вось у Наваградчыне—тэй Наваградчыне, у якой у часе выбараў у польскі Сойм і Сэнат беларусам дасталася такая бліскучая перамога,—лічба пададзеных школьных дэкляраціяў аказалася бадай найменшай, раўнуючы да другіх ваяводзтваў Зах. Беларусі.

Мала таго: той-жа Аляксюк ізноў выслужыўся паляком у часе апошніх выбараў у самаўрад места Наваградку, якія адбыліся 15 студзеня.

У Наваградку палякоў—зусім малы працант: галоўная маса насяленьня—гэта беларусы і жыды. Калі-б гэтыя дзьве нацыянальнасьці змовіліся, дык з кучкі панаехаўшых сюды польскіх чыноўнікаў і гандляроў гарэлкай ніхто-б у раду не папаў. Спудзіўся пан староста, спудзіліся і ўсе „паважаныя культуртрэгеры", якія пачулі, што грунт пад імі—няпэўны. Што-ж рабіць, як ратаваць палажэньне?

Раптам нехто прыпомніў пра Аляксюка: гэта-ж—чалавек дужа спрытны, а да таго-ж—„беларус". І мішурэс пана старосты ўсё, як сьлед, уладзіў: „беларусы" пагадзілі жыдоў з палякамі і ўлажылі адзіны сьпісак кандыдатаў, у якім аказаліся: 5 палякоў, 13 жыдоў, 2 татараў і 4 беларусаў, у тым ліку—спадручны Аляксюка Біруковіч. А як другіх сьпіскаў ня было, дык і выбараў рабіць ня прыйшлося! Так пад старшынствам Аляксюка, за сьпіной якога стаяў п. староста, выбарны камітэт „пагадзіў" усе нацыянальнасьці—прыгоншчыкаў і пргынятых...

Пан міністар Рачкевіч, стары прыяцель Аляксюка, спэцыяльна прыяжджаў у Наваградак „на інспэкцыю" і быў захоплены гэтай праявай „згоднага сужыцьця ўсіх нацыянальнасьцяй" пад „апякуючымі крыльлямі" „найдэмакратычнейшае" Рэспублікі, дзе пануе „рай для меншасьцяў". З няменшым захопленьнем і орган польскіх дэмакратаў „Kurjer Wileński" пасьвяціў наваградзкім выбарам ажно перадавую стацьцю, адзначаючы „сьвятую згоду" між „прыраджонымі гаспадарамі" Польшчы і бяспраўнымі ілотамі—„нацыянальнымі меншасьцямі"....

Браво, пане Аляксюк!

Некалі гісторыкі нашых часоў, натрапіўшы на апісаньне наваградзкіх выбараў, здумеюцца: як гэта магло стацца? І патрэбны будуць спэцыяльныя досьледы, каб па нітачцы дайсьці да клубочка і зразумець усю праўду...

## Зьезд паслоў-крэсоўцаў з Вызваленьня у Вільні.

23 студня ў Вільні адбыўся зьезд паслоўвызваленцаў з Віленшчыны і Наваградчыны, а таксама і дэлегатаў ад арганізацыяў „вызваленцаў" з гэтых ваяводзтваў. Зьезд, арганізаваны „крэсавымі" пасламі Вызваленьня, меў вырашыць, ці аставацца „крэсавай групе" пасла Дубровніка ў партыі, ці, разам з выходам з яе вялікай сялянскай групы, таксама пакінуць гэтую ашукаўшую сялянства партыю.

На зьезд прыехалі ня толькі былыя „вызваленцы", раней кінуўшыя гэтую партыю і павярнуўшы курс больш улева, як п. Ваяводскі, але і „прававерныя вызваленцы", як пас. Галка і сэн. Каліновскі, якія ўзяліся на зьезьдзе бараніць „цэласьці" партыі... Пасьля бурных спрэчак зьезд пастанавіў кінуць Вызваленьне, а стварыць асобны клюб у Сойме—пад назовам „Клясавая Крэсавая Сялянская Партыя".

## Аблічча выясьняецца.

Аблічча „Сялянскае Нівы" і „Сялянскага Саюзу" пачынае ўсё больш і больш выяўляцца. Тут аказываецца згуртаванай самая разнародная зьбераніна — асколкі няістнуючых партыяў, беспраграмныя „сацыялісты", „радыкалы", урэшце—ксяндзы.

Гэтак з Прагі адгукнуліся недабіткі беларускіх эсэраў (якіх асталося роўна **два** чалавекі), а орган кс. Станкевіча „Бел. Крыніца" ў апошнім нумары адкрыта распачаў сярод сялян-каталікоў агітацыю, каб запісываліся ў гэны „Сялянскі Саюз".

Відаць, ідэйная стракатасьць цяпер у модзе: прыклад даў сучасны эндэцка сацыялістычны ўрад Польшчы.

---

Што і як будзе рабіць у Сойме гэты новы клюб, няведама, але ўжо вельмі паказальным і дадатным зьяўляецца тое, што прадстаўнікі сялянства выходзяць з тэй партыйнай мешаніны ў Сойме, якая тварылася ў часе выбараў, ды больш як 3 гады баламуціла галовы і прадала інтарэсы сялянства ў Польшчы. Доўга адкладаная „зямельная рэформа" нарэшце расчыніла вочы сялянству ў Польшчы на характар і ролю ўсіх соймавых клюбаў, і першым вынікамі гэтага дасьледу і зьяўляецца гуртаваньне сялянскіх паслоў у сваіх сялянскіх клясавых партыях і групах у Сойме і па-за Соймам...

З гэтага пункту гледжаньня трэба вітаць гэты першы крок на шляху клясавага асьведамленьня сялянскіх дэпутатаў. Другім крокам было-б аб'яднаньне ўсіх сялянскіх паслоў на аднэй шчыра сялянскай праграме, а трэцім зьявілася-б зразуменьне таго, што само сялянства ня вырашыць справы свайго палітычнага і гаспадарчага вызваленьня—бяз злучэньня з сваім адзіным шчырым саюзьнікам у месьце — рэвалюцыйным пралетарыятам...

## Аб чым пішуць.

### Каталіцкае „братэрства".

Што польскае каталіцкае духавенства прадстаўляе точную копію праваслаўных „істінно-русскіх" папоў з часаў царызму,—гэта відаць з таго, што гэтае „хрыстова" воінства займаецца шырэньнем ня любві між людзьмі, а самае дзікае нацыянальнае ненавісьці. Як прыклад, падаем выметку з мэмарыялу кс. Гадлеўскага да панскага нунцыя (прадстаўніка) ў Варшаве—паводле „Bieł. Krynicy":  з яго відаць, што нацыянальная ненавісьць сярод ксяндзоў не абмінае і „сваіх", паскольку яны—не палякі!

> Агулам у адносінах польскага духавенства да духавенства беларускага цяпер можна спасьцерагчы тую злосную праяву, якая на сьвеце завецца „байкот". Вось-жа, каб выясьніць справу і словы пацьвярдзіць фактамі, трэба затрымацца над гэтымі адносінамі.
>
> Калі некалькі гадоў таму кс. Адам Станкевіч, цяперашні пасол у Сойм Рэчыпаспалітай, пайшоў разам са сваімі вучнямі з беларускай гімназіі ў касьцёл Бэрнадынаў, што ў Вільні — і там тлумачыў гэтым вучням пабеларуску зьмест аднаго абразу, нейкая кабета гэтага ксяндза вельмі моцна злаяла за тое, што ён у касьцеле гаварыў пабеларуску. Што-ж на гэтае ксяндзы таго касьцёла? Можа заступіліся за ксяндза Станкевіча, гэтак несправядліва злаянага? Зусім не. Але адзін з польскіх ксяндзоў таго касьцёла яшчэ абдарыў грашмі тую кабету за сьмелую абарону касьцёла ад беларускай мовы!..
>
> І гэта зрабіў не якісь недавучаны ксёндз, але Лявон Пуцята, дохтар філязофіі і тэолёгіі, цяперашні проф. Віленскага Унівэрсытэту!..
>
> Яшчэ і тое ведама, што польскія ксяндзы ня хочуць падаваць рукі ксяндзам-беларусам, як гэта здарылася нядаўна ў Беластоку, дзе ксёндзпаляк не хацеў падаць рукі проф. кс. д-к. Рэшацю, каторы перад тым быў выкінуты палякамі з Віленскай Сэмінарыі.
>
> А мне здарылася дня 16-га верасьня м. г., што ўсе польскія ксяндзы Ваўкавыскага дэканату, сабраўшыся на фэст у Поразава разам са сваім дзеканам кс. Спэрскім аб'явілі „байкот" за тое, што я беларус і труджуся за свой народ. Калі ж я выбраў у гэтым споры кс. М. Бурака, Мсьцібаўскага пробашча на пасрэдніка і праз яго хацеў навязаць нейкае збліжэньне, або і згоду з тымі ксяндзамі, думаючы, што тут ёсьць нейкае непаразуменьне — то гэтыя ксяндзы адкінулі ўсе мае спробы да збліжэньня і згоды і асталіся пры „байкоце".
>
> Ізноў у Дзісьненскім (цяпер Мёрскім) дэкканаце ані адзін ксёндз-паляк ня прыехаў на фэст Сьв. Роха ў Барадзенічы (23./VIII 1925 г.). А гэты „байкот" парахвіяне бачаць і горшацца.

На гэтую агіду абураюцца навет самі палякі, прынамся надовячы з глыбокім абурэньнем на польскіх ксяндзоў-шовіністаў перадрукаваў гэтыя факты „Kur. Wil.".

Дзіўна толькі, што кс. Гадлеўскі зварачаецца да папы і яго прадстаўніка: гэта-ж сам папа за конкордат аддаў пад бескантрольную ўладу польскага нацыяналізму і каталіцкі касьцёл у Польшчы, і тых каталікоў-беларусаў, якія апынуліся ў

межах Польскае дзяржавы, дужа добра ведаючы, як палякі адносяцца да сваіх „меншасьцяў“. Што папа гэта ведаў, ня можа быць сумліваў: ён-жа сам пры папярэднім папе быў у Польшчы нунцыем, стыкаўся з „меншасьцямі“ і навет гэтак прыхільна адносіўся да іх, што палякі прост выгналі яго з Варшавы, лаючы самымі вострымі славамі. Але, заняўшы папскі трон, новы папа зьмяніў сваю палітыку: вельмі, мусіць, патрэбны яму „даніны“ з Польшчы...

### Прыждалі пахвалы!

„Белар. Крыніца“, орган так-званых беларускіх „хрысьціянскіх дэмакратаў“, ці інакш—„хрысьціянскіх сацыялістаў“, кіраваны ксяндзом Станкевічам, прыждаў пахвалы самага строгага да „антыпаньствовых“ беларускіх паслоў „доктара“ Павлюкевіча.

Што-ж зрабіла „Беларуская Крыніца“ такога, ад чаго аж захапіўся сам пан „доктар“? Вось як кажа аб гэтым кіраўнік „Грамадзкага Голасу“:

> „Беларуская Крыніца“ дала клясыфікацыю і характэрыстыку розных беларускіх палітычных групіровак. Асабліва „цікавым“ для сябе лічыць п. Павлюкевіч гэтую „клясыфікацыю“ дзеля таго, што, як ён сам кажа, „Белар. Крыніца“ першы раз ставіць точкі над і... Але—„яшчэ больш цікавым для нас“ арыкул „Белар. Крыніцы“ пан Павлюкевіч лічыць дзеля таго, што „ён“ (артыкул) паўтарае тыя-ж акрэсьленьні некаторых групіровак, якія „мы“ („Грам, Голас“) падавалі ўжо даўно“.

Найбольш усьцешыла п. Павлюкевіча тое, што ў сваей „клясыфікацыі“ беларускіх групіровак „Белар. Крыніца“ залічыла да „камуністаў“ — „Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду“, а з газэтаў—„Беларускую Ніву“...

Мы ўжо далі вычэрпываючы і па сутнасьці адказ на гэтую „клясыфікацыю“. Цяпер толькі дадамо, што „сьмярдзючая пахвала“ Павлюкевіча толькі паказуе, як асьцярожнымі мусяць быць паны рэдактары „Бел. Крыніцы“ ў сваіх палемічных стацьцях.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Забастоўкі тэлефаністак і трамвайных працаўнікоў.

Ужо некалькі дзён, як уся Варшава ня мае тэлефонаў, ані трамваяў. За тое мае пагрозу быць пазбаўленай і электрычнага сьвятла... Прычыны і ход забастовак, як сцьвярджае навет урадавасацыялістычны „Роботнік“, ярка высьвятляюць правакацыйнае паступаньне зусім абнаглеўшага „начальства“—урадавага і мястовага, якое, апіраючыся на „коаліцыйны“ ўрад, лічыць, што з работнікамі можа рабіць усё..

Забастоўка тэлефаністак выклікана драбязой, якая правакацыйна раздзьмухана ў пажар Управай, няслушна выгнаўшай адну з тэлефаністак і адмовіўшай выдачы прызнанай ужо камісіяй пяціпрацэнтнай надбаўкі... І вось цяпер з бастуючымі працаўнікамі „начальства вядзе запраўдную вайну“: тэлефаністак, запёршыхся ў гмаху станцыі, (якія ўсё-ж такі працуюць—дзеля ўрадавых, грамадзкіх, прэсавых установаў!) морыць голадам, холадам,—каб змусіць да „здачы“... Але працоўныя кабеты трымаюцца стойка.

Забастоўка трамвайных працаўнікоў таксама справакавана самаўрадам места Варшавы, захопленым, як і ў Вільні, эндэкамі. Варшаўскія „айцы места“ адмовіліся навет разглядаць дамаганьні працаўнікоў трамваю. Тады тыя аднагалосна пастанавілі: змусіць гэтых паноў гаварыць з імі — забастоўкай.

Такое-ж правакацыйнае паступаньне Варшаўскага Магістрату сцьвярджае „Роботнік“ і адносна да працаўнікоў варшаўскай мястовай электроўні.

Управа электроўні, замест таго, каб выплаціць прыбаўку на дарагоўлю усім работнікам, пачала плаціць толькі—„выбранцам“... Работнікі запратэставалі. Управа адмовілася навет выслухаць прэтэнсыі работнікаў.. Работнікі, аб'яднаныя, як і трамвайныя, у прафэсіянальны саюз, пагразілі забастоўкай. Тады ўмяшаўся ўрад, і справа канфлікту адложана да вынікаў перагавораў. Працаўнікі электроўні прынялі рэзалюцыю, у якой заявілі, што адлажылі забастоўку да 3 лютага, веручы што ўрад змусіць Управу Электроўні споўніць іх слушныя трэбаваньні.

У другой рэзалюцыі гэтыя работнікі заяўляюць, што ў кожны мамэнт яны гатовы падтрымаць забастоўкай дамаганьні аб'яднаных работнікаў Варшавы, выражаючы аднaчасна гарачае жаданьне пасьпеху—бастуючым працаўнікам трамваю і тэлефонаў.—Горача прыходзіцца паном пэпэзсам, якія круцяцца „задком-перадком“, жадаючы ўгадзіць як міністрам, так і работнікам...

### Дэманстрацыя безработных у Варшаве.

29 студня ў Варшаве адбыліся дэманстрацыі безработных перад гмахам Рады Міністраў і Магістратам. Безработныя трэбавалі хлеба і працы.

### Раскраданьне дзяржаўнага дабра.

На паседжаньні Соймавай Камісіі пас. Зомэрштэйн у сваім дакладзе раскрыў новую панаму, каштаваўшую вялікіх стратаў дзяржаўнаму скарбу. Справа ў тым, што польскі ўрад аддаў на вельмі крыўдных для скарбу варунках прыватнай супалцы, зложанай з розных упрывілеяваных асобаў-казённую фабрыку тэлеграфаў і тэлефонаў. Паводле аблічэньняў дакладчыка камісіі, страты скарбу—больш за 450 тысячаў злотых. Найцікаўней, як раскрылася ў часе дыскусіі,—што ваеннае міністэрства (ген. Сікорскі!) ўсё адцягівала вялікшы заказ гэтай фабрыцы на некалькі тысячаў апаратаў, пакуль фабрыка не перайшла ў прыватныя рукі...—Бо ведама-ж: з прыватнай рукі можна атрымаць большую... ськідку!

### Новая сэнсацыя ў ваенным міністэрстве.

Дзьве вялікія польскія газэты („Рэчпаспаліта“ і „Дзень Польскі“) падалі сэнсацыйную вестку аб тым, быццам ваеннае міністэрства прадало заграніцу 7.000 забракаваных каней — па 24 злотых за штуку...

Міністэрства пастанавіла пацягнуць за гэтую вестку абедзьве газэты да судовай адказнасьці з прычыны „няправільнага асьвятленьня“ гэтае справы.

### Узнаўленьне працы Сойму.

Першае пасьля „вакацыяў“ паседжаньне Сойму мае адбыцца 3 лютага.

### Польска-Радавая Гандлёвая Палата.

У нядзелю адбылося ў Варшаве ўрачыстае адчыненьне Польска-Радавай Гандлёвай Палаты.

### Прысуд у справе сьледчага Штранцмана.

Сьледчы судзьдзя Штранцман, з камеры якога ўцёк выдатны камуніст Лешчыньскі, засуджаны акружным судом на 3 месяцы арышту і выдалены са службы,

## Заграніцай.

### Літва трымаецца асобна.

Міністар замежных спраў Літвы Рэйніс заявіў журналістам, што Літва і далей ня ўвойдзе ні ў якую міжнародавую арганізацыю, у якой будзе прымаць учасьце Польшча. Не паедзе яна дзеля гэтага і на канфэрэнцыю балтыцкіх дзяржаў у Рыгу...

### Няўдалы „манархічны пераварот“ у Нямеччыне.

Нямецкія газэты паведамляюць, быццам бэрлінская паліцыя выкрыла і спыніла падрыхтаваны ўжо манархічны пераварот у Нямеччыне.

### Магчымасьць адбудовы манархіі ў Грэцыі.

Як ведама, асабістая дыктатура амаль не заўсёды ператвараецца ў манархію. І вось—толькі-што генарал Пангалёс абвясьціў у Грэцыі дыктатуру, як ужо ён і ня ўкрывае, што маніцца адбудаваць манархію. У Грэцыі ўжо называюць і кандыдата на трон: гэта—князь Андрэй, жанаты з англійскай князёўнай, які жыве ў Лёндане. Гэтая кандыдатура толькі падчырківае англійскія ўплывы ў-ва ўсей авантуры з дыктатурай у Грэцыі...

### Англа-італьянскае паразуменьне і Францыя.

Як ведама, у зьвязку з небясьпекай англа-турэцкай вайны аб Мосуль Чэмбэрлен асабіста паехаў да Мусоліні і падпісаў з ім вельмі карысную для Італіі ваенна-палітычную ўмову. А цяпер толькі-што Мусоліні далей спрытна выкарыстаў палажэньне Англіі, каб дабіцца ад яе вельмі выгаднага ўрэгуляваньня даўгоў Італіі англійскаму скарбу. Гэтая англа-італьянская ўмова аб сплаце даўгоў—значна лагадней і прыязьней трактуе Італію, як такая-ж умова Англіі з Францыяй. Дык за гэта францускі ўрад страшэнна загневаўся на Англію. Каб пацешыць Францыю, Мусоліні заявіў, што саюз Францыі з Італіяй павінен быць цясьнейшым і мацнейшым, чым усе. Тады ў-ва ўсей Эўропе будзе гэты саюз камандаваць, не баючыся ніякіх іншых саюзаў.

### Ізноў рыхтуюцца да вайны.

Францускае камандаваньне ў Марокко рыхтуецца да ўзнаўленьня вайны.—15 красавіка маюць пачацца першыя ваенныя крокі.

### Байкот Амэрыкай Лігі Народаў.

Амэрыканскі Сэнат 98 галасамі проці 1 пастанавіў, што Амэрыка ня прыме на сябе ніякіх праўных абавязкаў адносна да Лігі Народаў.

# ХРОНІКА.

**Вечарына-прэдстаўленьне ў Беларускай Гімназіі.** 6 лютага адбудзецца вечарына-прэдстаўленьне ў салі Віленскай Беларускай Гімназіі (Вострабрамская 9). Пастаўлена будзе: I) „Шчасьлівы муж“—камэдыя ў 4-х актах Фр. Аляхновіча; II) Канцэртны аддзел. Пасьля спэктаклю скокі. Пачатак а гадзіне 6½ веч. Білеты ў цане ад 1 да 5 зл. прадаюцца ў Бел. Гімназіі ад 10 да 2, а ў дзень вечарыны пры ўваходзе. Даход ідзе на карысьць незаможных вучняў.

**Беларускі адрыўны Календар на 1926 год.** Беларускае Навуковае Таварыштва ў Вільні яшчэ ўлетку 1925 г. пастанавіла выдаць беларускі адрыўны календар, патрэбу якога адчуваў кожны сьвядомы беларус, змушаны, дзеля нястачы календара ў сваей мове карыстацца з календароў, напісаных і выдаваных чужынцамі і ў іх мове.

Дзеля таго, што кожнае новае выданьне ў мове беларускай не знаходзе прыхільнасьці з боку цэнзуры, пры ўкладаньні календара кіраваліся тым, каб ягоны зьмест быў застасаваны да патрэбаў нашага беларускага чытача і заадно, каб гэны зьмест не падпаў пад чырвоны алавік ўлады цэнзурнае.

Таму укладчык календара, бяручы матэрыял з нашае літэратуры, акуратна спраўджаў, ці гэныя крыніцы дапушчаны ўладай да прадажы, ці маюць права быць распаўсюджыванымі на абшары Польшчы, маючы на мэце ня даць поваду ўладзе да канфіскаты першага выданьня адрыўнога календара

Аднак жа гэтыя асьцярогі ня прydaліся. Першае выданьне памянутага календара ўжо ў канцы кастрычніка было сканфіскавана ажно за 46 картак, на якіх быццам было надрукавано нешта такое, што ніяк ня можа быць чытана і прадавана бяз шкоды дзеля інтэрэсу і павагі Дзяржавы і дзяржаўнага строю.

Канфіската гэная яўляецца адбіцьцём адносінаў да беларускага друку і выяўляе тыя абставіны, у якіх беларускае друкаванае слова жыве.

За што-ж наступіла канфіската?

На гэных 46-ці картках угледжана ажно 53 аддзельных па зьместу вершаў, артыкулаў і пасобных думак, што не маглі ўбачыць вока нашага чытача.

Ды што-ж за зьмест гэных картак?

Тут ня спосаб падаць усе загалоўкі гэных 53-х артыкулаў, і дзеля арыентацыі падаем толькі частку, мо' найбольш характэрную:

1) Песьня № 7 — Фр. Багушэвіча памешчаная ў „Дудцы“, гэная песьня, дзякуй Богу, чытаецца і прадаецца без забароны, н'ат царскі ўрад дазваляў яе друкаваць і пашыраць. А першы раз гэная самая песьня была надрукавана даўно перад вайною ў... Кракаве, пад цэнзурай тагачаснай.. польскай, каторая некалькі дзесяткаў лет таму была ласкавейшай да нябошчыка Багушэвіча.

2) „Ворагам беларушчыны“, 3) „Хрыстос Васкрос“, 4) „Паўстаньце, рабскія натуры“, 5) „К свабодзе, роўнасьці і знаньню“—Янкі Купалы — ўсе гэта ўзята з кніжкі „Шляхам Жыцьця, выданае ў Вільні ў 1923 г., працэнзураванай мо н'ат гэным самым п. Цэнзорам.

6) „Беларусь, прабуджайся“, 7) „Духу Бацькаўшчыны“, 8) „Хрыстос Уваскрос“, 9) „Закладайма беларускія школы“, 10) „Хай нарэшце Людзьмі“, 11) „Пазнай пана“, 12) „Пазнай самога сябе“—гэта ўсе ўзята з выдаваных у 1920—1925 г. календароў, гэтак сама прайшоўшых цераз шчыльныя дзьверцы цэнзуры ў Вільні.

13) „Пахавайце, ды ўставайце“ — Шэвчэнкі, дазволенае і легальнае ў Львове, але недазволенае, аказываецца, у Вільні.

14) „Годзі“, 15) „Схамяніцеся“—з „Чыжыка“ Г. Леўчыка, выданага за царскае цэнзуры ў 1912 годзе і г. д. і г. д.

У выніку канфіскаты першага выданьня адрыўнага календара выдавецтва панясло 3000 зл. страты і на час ня было ўмагчымасьці прыгатовіць другое выданьне гэтага-ж календара.

Аднак, хаця й пазьней, выпускаецца ў сьвет Беларускі адрыўны календар на 1926 ў другім выданьні.

Зьмест яго, апрача 46-картак, той самы, што і ў першым выданьні.

Календар вялікага фармату, на добрай паперы, кірыліцай і лацінкай. У зьмесце паказывае сьвяты праваслаўныя і каталіцкія па старому і новаму стылю. Паказана пагода паводле сталетняга Брюсаўскага календара.

Календар дае апавяданьні і вершы найлепшых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Шмат розных гаспадарскіх і практычных радаў аб тым, як вясьці гаспадарку ў полі і каля хаты. Біографіі беларускіх дзеячоў, пісьменьнікаў і паслоў.

Усход і захад сонца на што-дзень, подлуг аблічэньняў Віленскай Унівэрсытэцкай Абсэрваторыі, датарнаваных да абшару Заходняе Беларусі.

Усе гэта складаецца на багаты і разнародны зьмест календара, які астаўляе за сабою ўсе краёвыя выданьні і па зьместу зблiжаецца да найлепшых загранічных календароў.

Дзеля гэтага адрыўны календар павінны знайсьціся ў кожнага сьвядомага беларуса. Падпішчыкі „Беларускае Нівы“ і другіх беларускіх газэт павінны не чакаючы купіць беларускі адрыўны календар і заахвочываць суседзяў і знакомых да гэтага.

Цана календара 1 зл. Прадаўцам 30 прац. ськідкі (пры куплі ня меней 10 экзэмпляраў). Галоўны склад: Вільня, Беларуская кнігарня, Завальная вул. № 7.

**Бюро Працы пры Беларускім Студ. Саюзе.** Урад Беларускага Студэнскага Саюзу, ідучы з матэрыяльнай дапамогай сваім сябрам, арганізаваў Бюро Працы. У бюры можна знайсьці спэцыялістаў карэпэтытараў са ўсіх прадметаў сярэдніх школ. Бюро адчынена ў серады і суботы ад 4—9 гадзіны. Адрэс: Віленская 12—6.

Урад Б. С. С. зварочваецца з просьбай да Дырэктара Віленскай Беларускай Гімназіі і ўсяго Беларускага Грамадзянства падтрымаць Студэнтаў Беларусаў, скіроўваючы інтэрэчантаў у гэтае бюро.

**Вялізарны працэс 92 „камуністаў“ у Вільні.** 1 лютага ў Віленскім Акружн. Судзе распачаўся вялікі працэс 92 „камуністаў“, якія абвінавачыва-

юцца ў тым, што яны мелі „адарваць частку дзяржаўнай тэрыторыі Польшчы“, „зьмяніць дзяржаўны і грамадзкі лад у Польшчы“ і г. д...

Газэты паведамляюць, што сярод абвінавачаных 89 жыдоў, 2 палякі і 1 расеец. Акты справы зьмяшчаюцца ў 9 вялізарных томах,—з некалькімі тысячамі старонак.

Справа працягнецца ня менш тыдня.

**Рэгістрацыя „гарматняга мяса“.** Калі мы йшчэ ў леташнім годзе надрукавалі вестку аб рэгістраваньні вайсковых расейцаў, якіх быццам францускі ўрад маніўся выкарыстаць дзеля ваенных апэрацыяў у Марокко, сам галоўны орган эндэцкае партыі „Gaz. Por. Warsz.“ надрукаваў запярэчаньне гэтай весткі.

Але вось зусім нядаўна „Kur. Wil.“ паведаміў, што ў Вільню прыяжджаў incognito (патайна) прадстаўнік б. вялікага князя Мікалая Мікалаевіча, Эсаул Яковлев, які рэгістраваў расейскіх эмігрантаў.

Ці ня мае гэта часам нечага супольнага з плянамі францускага ўраду? Бо-ж і праўда: раз людзі ні да чога ня здатны ў сваей бацькаўшчыне, дык чаму-ж ім не паслужыць каму-колечы другому?

**Безработных прыбывае.** 29 студзеня лічба безработных у Вільні дайшла ўжо да 4.686 душ.

# Карэспандэнцыі.

## Руплівыя культуртрэгеры.

(Наваградчына).

Ёсьць на беларускай зямельцы зусім цёмныя людзі, а ёсьць і добра адукаваныя беларусы. Бог іх ведае, ці яны беларусы, ці палякі, ці немцы, ці жыды,—але выстаўляюць сябе беларусамі. Можа, гэта яны робяць дзеля гонару, або дзеля іншае мэты, хто іх ведае, толькі запраўдным беларусам ад іх ніякае карысьці няма.

Праца паўлюкевічаўцаў вядома бадай кожнаму беларусу: ёсьць юдашавы сеці, у якія стараюцца запутаць беларускі народ. Можа паўлюкевічаўцы і ня цямяць, што іх „Грамадзкі Голас“ толькі абурае беларусаў. Рэдакцыя „Грамадзкага Голясу“ грошаў ад чытачоў не патрабуе, а толькі адрасоў, але гэта лішнія клопаты і затраты для польскіх фінансаў...

Да гэтай газэты вельмі блізкі і наваградзкі адвакат Аляксюк, які займае, здаецца, становішча віцэ-старшыні „Таварыства Беларускае Школы ў Наваградку“. Пад дыктатурай Аляксюка знаходзіцца ўсе гэнае Т-ва. Вось-жа, калі беларускі народ убачыў, што польская ўлада яго родных урадавых школаў не адчыняе, то пачалі дамагацца прыватных. Пачалі пісаць прыгаворы і адсылаць у Наваградскае Т-ва Бел. Школы. Але што-ж з гэтага выйшла? Прыгаворы ляжалі ажно па пяць тыдняў і нічога з імі не рабілася (прыгаворы з вёсак Любанічы і Асташыцы, Цырынскае гміны). Вось, нешта паном адвакатам паказалася страшна, дык яны і адаслалі прыгаворы тых, хто іх рабіў. І ня дзіва, Аляксюк нат гаварыць баіцца пабеларуску, а то будзе клапаціцца пра школу! Прыгаворы кіраўнікам Т-ва мейсца не праляжалі, але паўнамоцнікам дык дасталася, бо пакуль прыгаворы вылежваліся, дык ім прыйшлося зрабіць пеша ў два канцы ажно па 300 кілямэтраў! Барані Бог усіх добрых ад гэткіх руплівых культуртрэгераў!... **Хмурны.**

## Не ўдалося.

(З Ваўкавыскага пав.).

У нас у Ваўкавыскім павеце дужа многа пакладаюць работы П.П.С-цы, (Польская Партыя Сацыялістычная), каб завясьці нашых сялян у гразкае балота. І вось, да нас у вёску нядаўна прыехаў іхні панок інструктар, дый загадаў, каб зыйшліся на сходку. Сяляне зышліся, і пачаў тады гэты аратар казаць, што трэба ўсім з'арганізавацца пад штандарам П.П.С. Мы, сяляне, пачалі яму ўспамінаць іхнія грахі, аб згодзе з буржуазіяй і аб прадажы працоўных рабочых і сялян, успамінаючы аб Высокім Кангрэсе ў Варшаве 8 га лістапада, што не далі нашым паслам выявіць тую балячку аб уціску беларусаў, канчаючы пабіцьцём некаторых лепшых сыноў польскага народу (бо мне асабіста прыйшлося быць на гэтым кангрэсе). Нарэшце адказалі яму, што мы—Беларусы і маем сваю арганізацыю: гэта—Беларуская Рабоча-Сялянская Грамада, на гэтай дарозе—мы ўсе, хто мае здаровыя мазгі, на дарозе беларускага народу будзем стаяць.

Пахмурнеўшы пэпээсавец кінуўся на хітрасьць, што ён прыехаў, каб мы выбралі аднаго чалавека ў камісію, якая будзе парцэляваць зямлю ў нашым двары; але мы ізноў адказалі, што як нам эндэкі не далі, так і яны — П.П.С. не дадуць зямлі. Тады, нічога не адказаўшы, забраўся дый давай Бог ногі.

Дык вось, браткі-Беларусы, калі й да Вас зьявяцца падобныя ваўкі ў авечай скуры, як гэтыя пэпээсы—здраднікі сялянска-работніцкай справы, дык мятлою ганіце іх з вёскі!.. **Лявон Хмурны.**

## З жыцьця вёскі Заходняй Беларусі.

(Са Слонімшчыны).

У ноч з 20-га на 21-га сьнежня г. г. па Слонімскім павеце было вывешана вельмі шмат чырвоных сьцягаў. Некалькі сьцягаў было вывешана ў самым Слоніме. А адзін сьцяг быў занесены на комін ад сернікавай фабрыкі „Электра“. Фабрыка гэная не працуе, але комін пры ёй застаўся і вельмі высокі. Доўга не знаходзілася ахвотніка зьняць сьцяг. Сьцягі з рознымі надпісамі былі разьвешаны і ў вёсках вельмі блізкіх ад Слоніма, як у Вараб'ёвічах, на Талькаўшчыне, у Какошчыцах, у Сакалове, у Чамярох і шмат іншых вёсках.

У зьвязку з сьцягамі ізноў пачамі адбываецца патроху арышты сярод беларускай моладзі ў Слонімшчыне. 23./I быў заарыштаваны жыхар вёскі Чамяры Іван Міска. Пры „баданьні“ яго ў Касьцянях на пастарунку камандант паліцыі тыкаў яму ў грудзі рэвальвэрам і пагражаў застраліць. Хлапец вельмі перапалохаўся. Пасьля „баданьня“ на ноч яго пасадзілі ў арыштанскую пры Чамерскай гміне, а на другі дзень 24./I яго звольнілі. Таксама ў вёсцы Шылавічы былі заарыштаваны пяць хлапцоў. Вобыскаў пакуль што яшчэ няма.

25./XII 1925 г. звольнены з вастрогу жыхар вёскі Чамяры, Слонімскага павету, Якаў Пракапчук—60 гадоў. Ён прасядзеў у вастрозе ажно тры месяцы і звольнены бяз ніякага акту абвінавачаньня і без залогу. Пры „баданьнях“ не знайшлі ніякай віны, якая-б была падставай для абвінавачаньня. Ці-ж гэта ня зьдзекі над беларускай люднасьцяй?!

**Чупрыновіч.**

## Злодзей ці шпік?

(Слонімшчына, в. Чамершчына).

У вечары 13-га сьнежня 1925 г. у вёсцы Чамяры сталася вось якое здарэньне. Калі вучыцель беларускае школы М. Бурсэвіч выйшаў з ляхтарняй з хаты на двор, каб зайсьці даць корму кабыле, дык заўважыў, што хтось з пад яго вакна пачаў уцякаць пад будынкі суседа. Бурсэвіч пагнаўся за ім і, дагнаўшы яго, пачаў асьвятляць ліхтарняю яго твар, каб даведацца, хто гэта такі? Невядомы пачаў захіляць твар каўняром кажуха і пачаў лаяцца. Па голасу і па твару нельга было пазнаць, хто ён такі. Збаяўшыся невядомага, Бурсэвіч ад яго адыйшоўся, але вось, спаткаў двох хлапцоў Івана і Мікалая Бурсэвічаў, якія ужо сачылі за невядомым. Яны яго ўгледзілі, як ён стаяў каля іх хаты пад вакном. Калі яны ўгледзілі, дык ён уцякаў, а яны сачылі. Праз нейкі час гэны самы невядомы быў ужо ў другім канцы вёскі і, угледзіўшы хлапца Антона Багданчука на вуліцы, закрычаў: „Ręce do góry psiakrew“. Багданчук, угледзіўшы равальвэр у руцэ невядомага, падняў рукі ўгару і даў сябе абыскаць.

Не знайшоўшы нічога, невядомы пайшоў да вядомага ў нас пэпээса Бурдзіцкага (адзінага ў нас „паляка“ (каталіка) ў вёсцы) зачыніў на замок дзьверы і завесіўшы вокны пачалася там якаясь нарада... (Бачыце, хто такія пэпээсы)!..

На другі дзень гэны самы невядомы зайшоў у хату жыхара Кароцькі, пачаў у яго дапытвацца, ці ходзіць яго дачка да беларускай школы? Кароцька адмовіўся і папрасіў невядомага ў вольнай мужыцкай вопратцы выйсьці з хаты. Невядомы пайшоў у Касьцяні. Але цікава, што ў той самы вечар у вёсцы быў і мундуровы паліцыянт з Касьцянеўскага павету, але ніхто з жыхароў вёскі не паскардзіўся яму, баючыся мясцовай улады?

Цяпер па ўсей вёсцы ідуць гутаркі, хто гэта быў: шпік ці злодзей? **Сусед.**

## Папоўскі апэтыт.

(М. Рось, Ваўкавыскага пав.)

Разгуляліся цяпер папы-бацюшкі і дзяруць скуру з нашага беднага беларуса, дзяруць і ня пытаюцца, ці ты маеш чым заплаціць ці не; як маеш, то будзеш вельмі добрым хрысьціянінам, а як не — то будзеш бальшавік і праціўнік царквы. Асабліва ўславіўся гэтым нядаўна прыбылы ў наш прыход у мястэчка Рось, Ваўкавыскага пав., айцец Хвядос, які, як толькі прыехаў, то заявіў, што будзе браць напалавіну таньней за ўсялякія трэбы, як браў перад ім айцец Апалінары Касьценчык. А тут, як абыўся — ды паглядзеў, што народ цёмны і падатлівы, то бярэ, колькі ў яго шырокія рукавы ўлезе. І як цяпер жыць нашаму малазямельнаму брату-беларусу: і падаткі розныя заплаці, і страхоўку заплаці, і за чыстку комінаў заплаці, і штрафы розныя плаці, і павіннасьці і цванкі адбывай, і пошту гмінную ўтрымай, а тут другі раз, як на грэх, возьме дый дзіця народзіцца, і трэба яго хрысьціць, а поп за хрышчэньне бярэ аж 6 зл. 20 гр., хоць да вайны бралі толькі 30 капек.

А як павязеш хрысьціць, то бацьку ўперад памуштруе, то чаму палатна не прывязе кума, то чаму бяз хлеба прыехалі, а як толькі прывязеш у нядзельны дзень зраньня і хочаш ахрысьціць да абедні, то мусіш заплаціць на 1 злоты даражэй.

А ўжо за вянчаньне бярэ—то аж казаць страшна: за запаведзь бярэ 10 злотых, а за вянчаньне 40 злотых, значыць усяго 50 злотых, а калі бярэш мэтрыку, то 5 злотых. Вось і ажаніся—вазьмі аднаму папу аддай вар'тасьць цэлай каровы, а ў другога ня толькі каровы, але і гаўцы няма, а жаніцца трэба, бо няма каму ў гаспадарцы працаваць. Дык і ня дзіва, што цяпер многія жывуць і не вянчаўшыся: прывядзе дзеўку ў хату і жыве сабе на здароўе. Або другому і трэ' было-б ажаніцца, а грошаў няма, дык гуляе, разводзіць прастытуцыю і венарычныя хваробы.

За тое, што пасьвеньціць у царкве нябошчыка, бярэ 6 злотых і гэтак далей. Не адстае ад папа і ксёндз Роскай парахвіі, але яшчэ часам бярэ і даражэй. **Язэп Сумны.**

## Паштовая скрынка.

**Гр—ну Серафіму Татарыну.** Манэты атрымалі, перадалі ў музэй. З вершаў скарыстаем. Пішыце, прысылайце.

**Гр—ну Ул. Глевер (Гмыр).** Аб дазвол на вечарыну трэба прасіць у Старостве свайго павету.

**Хочаце паправіць дабрабыт сваей газэты „Беларуская Ніва“, дык безадкладна зьвярніце ей доўг, калі хто не заплаціў яшчэ!**





Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.